памяць XX стагоддзя 1903

# Задаволеная векавечная зайздрасць

Міхал МАТУШ

Ісёння мільёны людзей не здолеюць растлумачыць, чаму важкая, зробленая з металу машына, якая называецца аэрапланам, можа ляцець высока над хмарамі замест таго, каб каменем падаць на зямлю. На пачатку нашага стагоддзя такім недасведчаным было амаль усё чалавецтва, і калі амерыканцы браты Уілбер і Орвіл Райты ў лістападзе 1903 года здзейснілі два палёты на біплане ўласнай канструкцыі, сусветная прэса абвясціла, што старажытны міф пра Ікара нарэшце стаў рэальнасцю. Першы палёт братоў заняў 53 секунды, за якія яны адолелі 260 метраў. Другі засведчыў дзе манаплан з адным пілотам праляцеў на вышыні 5.610 метраў над узроўнем мора. Адначасна ішло спаборніцтва і за большую працяглагласць палёта. Рэкордам 1911 года сталі 1.252 км, адоленыя на манаплане «Ньюпар» за 14 гадзінаў 54 хвіліны.

З жадання вострых пачуццяў рызыкі ўзнік фігурны пілатаж. Пілоты ў падабенства сокалам і арлам дэманстравалі пікіраванне, палёты дагары нагамі, нарэшце ў 1913 годзе Пётр Несцераў на вачах кіеўскай публікі выканаў «мёртвую пятлю», якая пазней стала абавязковай фігурай складанага пілатажу (гэта значыць, усіх відаў перавернутага палёту).

да распрацоўкі першых мадэляў «знішчальнікаў»: у Германіі — «Фокера», у Францыі— «Ньюпара», у Англіі — «Вікарса». Большая хуткасць, кулямётнае ўзбраенне дазвалялі ім наносіць адзін аднаму адчувальныя страты. За гады сусветнай вайны ў паветраных баях варагуючымі бакамі было збіта 8.100 самалётаў, а яшчэ 2.400 сталі ахвярамі зенітнай і стралковай зброі.

Тыя першыя пілоты, чые імёны ўвайшлі ў легенду, як імя Ікара, лічылі сябе абраннікамі лёсу, які даў ім паспытаць шчасце панавання над нябёсамі, шчасце хадзіць па зямлі і адольваць прастору ў небе — вартасць паўбагоў.

У 1944 годзе, падчас вайны з Японіяй, на адзін з астравоў у



безумоўнае з'яўленне авіяцыі — ён цягнуўся 3,5 хвіліны. Біплан Райтаў меў размах крылаў 12,5 м, магутнасць матора — 16 конскіх сілаў. Праз пяць гадоў Уілбер Райт пратрымаўся ў паветры 2 гадзіны 20 хвілінаў, адолеўшы за гэты час 120 км.

Тагачасныя пілоты былі разам і канструктарамі, і выпрабавальнікамі, і кумірамі публікі, і ахвярамі частых аварыяў, і творцамі ўражальных рэкордаў. Першыя аэрапланы развівалі хуткасць 75 км у гадзіну. У 1908 годзе біплан французскага пілота Анры Формана паказаў хуткасць 96 км у гадзіну. А праз чатыры гады лепшыя манапланы маглі лятаць з хуткасцю 170 км.

Самалёт заваёўваў паветраную прастору, і марай пілотаў было ўзняцца на вышыню, недаступную птушкам. Рэкорд 1908 года быў 110 метраў, рэкорд наступнага года — 510 метраў, а ў 1913 го-

Як і ўсялякае надзвычайнае дасягненне навуковай і тэхнічнай думкі, аэраплан хутка быў ацэнены ваеннымі коламі і стаў, разам з арміяй і марскім флотам, трэцім відам войскаў. Напярэдадні Першай сусветнай вайны развітыя краіны ўжо мелі немалы парк ваенных самалётаў: Расія — 263, Германія — 236, Англія — 30, ЗША — 30, Францыя — 156. А на апошні год вайны паветраныя войскі Англіі налічвалі 3.300 самалётаў, Аўстра-Венгрыі — 622, Італіі — 842, Расіі — 1.040. Падзел на ваенныя і неваенныя самалёты папраўдзе трэба лічыць дастаткова ўмоўным, бо звычайны аэраплан, пілот якога мог шпурляць рукамі гранаты на траншэі ворага, ужо ўдзельнічаў у баявых дзеяннях. А такіх самалётаў у 1918 годзе Францыя мела 17 тысяч, ЗША — 6 тысяч, Германія — 15 тысяч, Англія — 22 тысячы, Італія — 2, 7 тысячы.

Паветраныя сутычкі прывялі

Ціхім акіяне, дзе жыло і працягвае жыць у першародная чысціні туземнае племя, праляцеў амерыканскі самалёт з гуманітарнай дапамогай. Ён узнік у небе, прызямліўся, пілот выгрузіў падарункі, і самалёт зноў знік у блакіце нябёсаў. Для туземцаў гэта стала неаспрэчным сведчаннем клопату багоў, і па сённяшні дзень яны пакланяюцца зробленаму з бамбука макету аэраплана і чакаюць яго другога прышэсця.

Варта заўважыць, што сваімі ўнёскамі ў развіццё авіяцыі можа ганарыцца і Беларусь. За восем гадоў да эпахальнага палёту братоў Райтаў у вёсцы Глыбокае Гомельскага павета нарадзіўся Павел Сухі. Рамантыка неба прывяла яго ў лік вядомых авіяканструктараў. Гэта ён стваральнік самалётаў АНТ-25 і АНТ-37, знакамітых баявых штурмавікоў СУ-2 і СУ-6 (браніраванага) ды іншых ужо сучасных самалётаў. ■

ПОШТА

# Парада патрыётам

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя! У мяне ёсць прапанова да ўсіх сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны: давайце ўпрыгожым Мінск нашымі нацыянальнымі сцягамі! І дзеля гэтага нагул неабавязкова лезці на дахі ці вежы-тэлевышкі. Прапаную кожнаму сканструяваць невялікі паплавок з бел-чырвона-белым сцяжком: бярэцца паўтаралітровая пластыкавая бутэлька з-пад газаванай вады, на дно кідаецца некалькі невялікіх каменьчыкаў, зверху чапляецца сцяжок з кардону ці тканіны – і паплавок гатовы (*глядзі схему*).

Потым гэты паплавок запускаецца ў ваду Свіслачы (вышэй Мінска), і плынь сама вынясе нашыя сцягі ў цэнтр сталіцы. Пры жаданні можна запус-



каць такія паплаўкі не толькі ў Мінску, але паўсюль, дзе праз горад ці сяло цячэ рака. ■

**Максім П., Гомель**

КНІГАРНЯ

# От Абеляра до Ясперса

Константин СКУРАТОВИЧ

В интеллектуальной жизни нашей страны произошло событие незаурядное. Впервые за многие столетия издан труд, который по своей значимости для национального самосознания белорусов не уступает знаменитой Скориновской Библии.

Правда, «Новейший философский словарь» — это результат коллективных усилий большой группы людей, но, как и Библия Ско́рины, он издан без всякой поддержки государства. Авторы, а это более сотни интеллектуалов из Беларуси и сопредельных государств, подготовили объемистый том, включающий в себя около 1.400 аналитических статей, охватывающих, как сказано в рецензии, «всю полноту классического философского канона (в его западном, восточном и восточно-славянском вариантах), так и новейшие тенденции развития философии в контексте культуры постмодерна».

Охват, что называется, от Абеляра до Ясперса. Что касается содержания, то для его характеристики уместен термин «энциклопедичность». Помимо того, что словарь впервые вводит в интеллектуальный оборот более 400 феноменов и персоналий, для него характерно преодоление однобокой советско-марксистской идеологизации философской и общественной мысли, в том числе и белорусской.

Подобные издания довольно редки. Достаточно сказать, что советские студенты, да и профессиональные философы, до появления «Философского энциклопедического словаря» в 1983 году пользовались в основном кратким «словариком», который появился на свет еще в сороковые годы. Правда, всякий раз его «модернизированное» издание выходило вместе с переменой линии партии. Поэтому в одном из них можно было прочитать о великом вкладе в творческое развитие пролетарской философии вождя китайского народа Мао Цзэдуна, а в последующем — о том, что Мао был злостным ревизионистом и отщепенцем.

Существуют и другие основания для того, чтобы данное творение считать предметом национальной гордости. Дело в том, что его появление свидетельствует о существовании белорусской философской школы, способной к осмыслению глубинной сущности вещей. Можно также констатировать, что многолетняя деятельность философских кафедр высших учебных заведений, в первую очередь Белгосуниверситета, с которым так или иначе связаны судьбы большинства авторов, дала свои плоды. Примечательно и то, что авторы, придерживающиеся «по жизни» различных политических взглядов, достигли творческого «консенсуса», представив философию вечной искательницей истины, а не некой «сверхнаукой», с помощью которой оправдывали всякого рода благоглупости политических временщиков.

В наше время, когда кое-кто мнит себя то великим историком, то законченным экономистом, такой подход чрезвычайно актуален. Ибо, как писал когда-то Карл Поппер, творчеству которого в словаре посвящена статья А. Грицанова, мы «не можем сотворить небеса на земле», с помощью какой-то и кем-то изобретенной формулы. Но «прогрессировать можем только мы, человеческие индивидуумы... защищая и усиливая те демократические институты, от которых зависит свобода... и прогресс». Вот ведь в чем дело. ■

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

**Што гэта за экалагічны збор на карысць запаведнікаў і чаму я мушу плаціць кожны раз па 200 тысячаў, калі еду праз Бярэзінскі запаведнік?**

**Сяргей ШАРКОЎ, Бягомль**

Экалагічны збор за праезд па тэрыторыі нацыянальных паркаў і запаведніка быў уведзены з 1 траўня ўказам прэзідэнта. У Беларусі ёсць тры нацыянальныя паркі – «Белавежская пушча», «Браслаўскія азёры» і «Прыпяцкі», а таксама адзін запаведнік – Бярэзінскі біясферны. Адносна нядаўна ўсе яны былі падпарадкаваныя ўпраўленню справамі прэзідэнта. Цяпер, калі вы едзеце па дарогах, што праходзяць праз іх тэрыторыю, то рыхтуйце грошы.

Памер збору складае 200 тысяч рублёў для беларускіх легкавікоў, для грузавых аўтамашынаў – 500 тысяч, для замежных аўтамашынаў – 5 долараў. Гадавы пропуск каштуе 20 «мінімалак» для легкавікоў і 50 – для грузавікоў. На дарогах ужо стаяць экалагічныя пасты і збіраюць «даніну».

Як нам стала вядома, прапанова збіраць грошы за праезд па нацыянальных парках і запаведніку нарадзілася ва ўпраўленні справамі прэзідэнта. Ведамства Івана Ціцянкова, як бачым, паспяхова «працірнула» праз Аляксандра Лукашэнку дадатковую крыніцу фінансавання.

У адпаведнасці з прэзідэнцкім указам, сродкі, атрыманыя як экалагічны збор, мусяць накіроўвацца на рахункі нацыянальных паркаў і запаведніка, а таксама (часмусьці) міністэрства ўнутраных справаў.

Тым часам высвятляецца, што паборы на такіх трасах, як, напрыклад, Мінск–Віцебск (яна праходзіць праз Бярэзінскі біясферны запаведнік), могуць быць не зусім законныя.

Як паведаміў нам начальнік упраўлення па справах запаведнікаў міністэрства прыродных рэсурсаў Андрэй Галдзянкоў, аўтамабільныя дарогі, што праходзяць праз нацыянальныя паркі і запаведнік, не ўваходзяць у склад гэтых ахоўваемых прыродных тэрыторыяў. Па словах чыноўніка, «можна яшчэ паспрачацца» з тым, ці мае права міліцыя браць экалагічны збор за праезд па гэтых дарогах. ■

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



 Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 545 Нумар падпісаны ў друк 13/05/99 (15:00) Наклад – 21.290